# Дзень Волі

Пачатак на стар. 5

Не выяўлялі зацікаўленасці да БНР краіны Антанты і ЗША, бо не жадалі губляць для сябе адчыненай брамы для інтэрвенцыі супраць Савецкай Расіі. У гэтых умовах дзеячы БНР пачалі ствараць беларускі камандны склад, які прызначыў спецыяльнага камісара для ваенных спраў К. Езавітава, абвясціў аб узбраенні грамадзян. У адказ у пачатку красавіка 1918 г. нямецкія акупацыйныя ўлады заявілі, што яны забараняюць дзейнасць Народнага сакратарыята.

Пасля гэтых падзей узмацніўся ўплыў "Менскага беларускага прадстаўніцтва", у якім пераважалі правыя сілы, што выступалі супраць нацыяналізацыі зямлі і за далейшае беларуска-германскае збліжэнне. 12 красавіка 1918 г. сябры "Менскага беларускага прадстаўніцтва" (П. Аляксюк, Р. Скірмунт, А. Уласаў і інш.) былі кааптаваны ў склад Рады БНР, што змяніла суадносіны сіл на карысць правых.

Значных поспехаў БНР дасягнула ў развіцці асветы і культуры. Паводле розных падлікаў, працавалі ад 150 да 350 школ. Падрыхтоўка настаўнікаў вялася ў Свіслацкай семінарыі і Мінскім педінстытуце. У красавіку 1918 г. была заснавана Мінская вышэйшая музычная школа, якая неўзабаве пераўтварылася ў Беларускую кансерваторыю. У красавіку 1918 г. створана падрыхтоўчая камісія для адкрыцця Беларускага універсітэта ў Мінску, у якую ўвайшлі А. Смоліч, М. Доўнар-Запольскі, Я. Карскі і інш. Па ініцыятыве І. Луцкевіча ў 1918 г. была створана першая беларуская навуковая ўстанова - Беларускае навуковае таварыства ў Вільні. Выдаваліся беларускія кнігі, часопісы і газеты.

Напярэдадні гэтай даты мы вырашылі правесці маленькае сацыялагічнае анытанне сярод студэнтаў. Мы задалі такое пытанне "Ведаеце вы, чым вызначыўся дзень 25 сакавіка ў Беларускай гісторыі?"

Марына: Гэта неяк звязана з нашай краінай... Не, гэта нейкае новае свята... А не гэта звязана з нашай канстытуцыяй?

Сяржук: Даўно вывучаў гісторыю таму не памятую.

Лена: Гэта дзень абвяшчэння БНР, першае абвяшьэнне Беларускай незалежнасці.

Міхась: У гэты дзень распаўся Савецкі Саюз.

Аляксандр: А што там было, нічога там не было?

З гэтага маленькага моладзевага апытання мы можам зрабіць пэўныя высновы. Так падаўляючая большасць апрошаных упростак ня ведаюць з чым звязаны гэты дзень ў гісторыі нашай краіны, а гэта людзі якія вывучалі гісторыю і ў школе, і ў нашай Акадэміі.

Цяжка сабе уявіць, што б адказалі на гэтае пытанне людзі больш сталага ўзросту... Сумна, што беларусы з сваёй гісторыі добра запамінаюць гучныя імёны і факты савецкага часу, забываючысь на сапраўды значныя і сымвалічныя падзеі. Сумна...Але гэта бясспрэчны факт...

**Падрыхтавалі А.КРЫВІЧ, М.НАРБУТ.**

У артыкуле выкарыстаны матэрыялы дапаможніка для студэнтаў " Гісторыя Беларусі ў кантэксце еўрапейскай цывілізацыі" пад рэдакцыей Л.В.Лойкі

**Радыё Свабода**

## Эўразьвяз яшчэ на год працягнуў санкцыі супраць Беларусі

Рада Эўрапейскага зьвязу ў часе сустрэчы ў Брусэлі ўхваліла падрыхтаванае раней амбасадарамі краінаў Эўразьвязу рашэньне аб тым, каб працягнуць яшчэ на год санкцыі супраць прадстаўнікоў беларускіх уладаў, тэрмін якіх меўся скончыцца 10 красавіка сёлета.

Санкцыі прадугледжваюць забарону для чатырох дзясяткаў беларускіх урадоўцаў, прадстаўнікоў судовай сыстэмы і праваахоўных ворганаў, іншых чыноўнікаў на ўезд на тэрыторыю Эўразьвязу, а таксама замарожваньне іхных рахункаў у эўрапейскіх банках.

Гэтыя захады былі зробленыя Брусэлем пасьля леташніх прэзыдэнцкіх выбараў, якія, паводле Эўразьвязу, не адпавядалі дэмакратычным стандартам, а таксама пасьля хвалі рэпрэсіяў супраць апазыцыйных палітыкаў.

"Сьпіс асобаў, супраць якіх уведзеныя санкцыі, застаецца нязьменным, але можа быць перагледжаны ў любы момант у адпаведнасьці з крытэрыямі, ад якіх гэты перагляд залежыць", - гаворыцца ва ўхвале Рады Эўразьвязу.

**Аляксей Дзікавіцкі**

## У Клецку затрымалі выдаўца незалежнага бюлетэню

У Клецку затрыманы мясцовы актывіст дэмакратычнага руху Сяргей Панамароў. Ён пасьпеў паведаміць Радыё Свабода, што прычынай затрыманьня стала яго выдавецкая дзейнасьць.

"Бойкі Клецак" — мой бюлетэнь. За выраб і раздачу. Усе баяцца майго "Бойкага Клецку". Яны ня ведаюць, што можна рабіць са мною".

Бюлетэнь "Бойкі Клецак" зьяўляецца незарэгістраваным выданьнем. Выходзіць штотыднёва накладам 299 асобнікаў. У ім зьмяшчаюцца матэрыялы пра дзейнасьць беларускай апазыцыі, падзеі мясцовага жыцьця.

## Магілёў: рэгіянальную арганізацыю Партыі БНФ пазбавілі офісу

Управа маёмасьці Магілёўскага гарвыканкаму не падоўжыла дамовы на арэнду офісу рэгіянальнай арганізацыі Партыі БНФ. Калі за месяц арганізацыя ня знойдзе новага памяшканьня, яна атрымае папярэджаньне ад управы юстыцыі.

Кіраўнік рэгіянальнай арганізацыі Партыі БНФ Рыгор Кастусёў тлумачыць скасаваньне дамовы імкненьнем улады зьнішчыць рэгіянальныя структураў Партыі БНФ.

Днямі сп. Кастусёў атрымаў ва ўправе юстыцыі новае пасьведчаньне рэгістрацыі.

Спадар Кастусёў пачаў шукаць новае памяшканьне.

Рыгор Кастусёў паведаміў Радыё Свабода, што ва ўправе маёмасьці яму далі сьпіс свабодных плошчаў, сярод якіх ёсьць памяшканьні ў тым жа будынку, адкуль арганізацыю толькі што выселілі.

Нагадаем, 7 сакавіка ў офіс арганізацыі ўварваліся міліцыянты й сканфіскавалі 600 асобнікаў газэты "Свабода" і 1000 улётак да сьвяткаваньня ў Менску Дня Волі. 12 сакавіка Рыгора Кастусёва выклікалі ў міліцыю. Там яго распытвалі пра статус арганізацыі й наяўнасьць дакумэнтаў, якія пацьвярджаюць законнасьць арэнды офісу.

**Радыё Рацыя**

## Акцыя 25 сакавіка будзе мець выключна мірны і неканфрантацыйны характар

Аб гэтым заявіў па выніках паседжаньня аргкамітэту 25 сакавіка намесьнік старшыні Партыі БНФ Віктар Івашкевіч.

Як паведамляе прэс-група Партыі БНФ, у чарговым паседжаньні аргкамітэту 25 сакавіка, якое адбылося 28 лютага, акрамя Івашкевіча, узялі ўдзел намесьнік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Ігар Шынкарык, прадстаўнік групы Аляксандра Мілінкевіча Віктар Карнеенка, старшыня Рады інтэлігенцыі Уладзімер Колас, прадстаўнікі незарэгістраванай арганізацыі Малады Фронт.

Аргкамітэт абмеркаваў магчымыя сцэнары правядзеньня акцыі да Дня волі.

- Пры любых варыянтах разьвіцьця падзеяў, - кажа Івашкевіч, - акцыя Дня Незалежнасьці 25 сакавіка будзе мець выключна мірны і неканфрантацыйны характар.

Як паведаміў Радыё Рацыя Шынкарык, у бліжэйшы час аргкамітэт зьбіраецца зьвярнуцца да грамадзянаў, якія плянуюць узяць удзел у акцыі, і да сілавых структураў.

- Мы заклікаем грамадзянаў не рэагаваць на правакацыі, - кажа Шынкарык, - а таксама зьвяртаемся да сілавых структураў з заклікам не правакаваць людзей, не выконваць супрацьзаконных загадаў.

Намесьнік старшыні АГП падкрэсьліў, што "мы пойдзем на акцыю зь мірнымі лёзунгамі і зь мірнымі намерамі".

# ДЗЕНЬ ВОЛІ – ДЗЕНЬ ЯДНАННЯ

**Пачатак на стар. 1**

Пасля разгону з'езда частка яго дэлегатаў сабралася ў чыгуначным дэпо і 18 (31) снежня 1917 г. было прынята рашэнне аб перадачы краёвай улады Радзе Усебеларускага з'езда. 21 снежня 1917 г. Рада Усебеларускага з'езда абрала са свайго складу Выканаўчы камітэт з 10 чалавек.

Такім чынам, Выканаўчы камітэт стаў законным (легітымным) упаўнаважаным органам I Усебеларускага з'езда. Гэта важна запомніць, бо і зараз некаторыя аўтары спрабуюць аспрэчыць легітымнасць рашэнняў Выканкама.

Далей падзеі разгортваліся наступным чынам.

Перагаворы савецкага ўрада з немцамі поспеху не мелі. 18 лютага 1918 г. немцы зноў пачалі наступленне і бальшавіцкі Аблвыкамзах, не здолеўшы абараніць Беларусь ад нямецкай акупацыі, 19 лютага ўцёк у Смаленск. З гэтага дня парадак у Мінску падтрымлівалі беларускія сілы.

У такіх варунках Выканкам Рады Усебеларускага з'езда, які выйшаў з падполля, абвясціў сябе найвышэйшай уладай на Беларусі і вылучыў са свайго складу першы беларускі ўрад – Народны Сакратарыят Беларусі начале з Язэпам Варонкам. Аб гэтым паведамлялася ў Першай устаўнай грамаце да народаў Беларусі, апублікаванай 21 лютага. Аднак незалежнасць Беларусі яшчэ не была абвешчана.

У гэты ж дзень у Мінску з'явіліся немцы. Яны прыйшлі як акупанты і поводзілі сябе адпаведным чынам. 25 лютага выгналі з памяшкання Народнага Сакратарыята службоўцаў, забралі касу, сарвалі бел-чырвона-белы сцяг. Аднак у выніку перамоваў 28 лютага нямецкая ваенная адміністрацыя дазволіла дзейнасць Народнага Сакратарыята.

Заняўшы тэрыторыю да Дняпра, немцы па прапанове Расіі зноў пайшлі на перагаворы і 3 сакавіка 1918 г. у Брэсце паміж Расіяй і Германіяй быў падпісаны трактат аб міры (Брэсцкі мір). Пра Беларусь нават не згадвалі, яе тэрыторыю сталі расцягваць на кавалкі суседнія краіны.

Такія абразлівыя стаўленні да Беларусі выклікалі новы выбух нацыянальнай свядомасці. 9 сакавіка 1918 г. адбылося пасяджэнне Выканкама Усебеларускага з'езда, у якім таксама ўдзельнічалі прадстаўнікі некаторых мясцовых рад, земстваў, гарадскога самакіравання. На гэтым пасяджэнні была прынята Другая ўстаўная грамата, якая мела канстытуцыйны характар. Цяпер краіна абвяшчалася Беларускай Народнай Рэспублікай. Выканкам Усебеларускага з'езда быў пераўтвораны ў Раду БНР, якая атрымлівала заканадаўчую ўладу (старшыня – Іван Серада). Выканаўчую ўладу (урад БНР) ажыццяўляў Народны Сакратарыят (старшыня – Язэп Варонка).

Другая устаўная грамата сцвярджала сацыялістычныя прынцыпы, шанавала правы нацыянальных групаў, касавала прыватную ўласнасць на зямлю, якая перадавалася тым, хто на ёй працаваў, уводзіла васьмігадзінны працоўны дзень. Па сваім дэмакратызме канстытуцыйная беларуская Грамата стаіць вышэй за канстытуцыю савецкай Расіі 1918 г. У БНР ніхто не пазбаўляўся права выбіраць і быць абраным. Была абвешчана свабода слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў, "безумоўная вольнасць сумлення", недатыкальнасць асобы і жылля.

Затое забаранялася вайна супраць рэлігіі і ўсялякая цэнзура.

БНР паўставала як дэмакратычная сацыялістычная дзяржава.

Насуперак стандартным абвінавачванням савецкіх часоў, што БНР – гэта стварэнне нямецкіх акупантаў, сучасныя гісторыкі пераканаўча даказалі, што немцы да фармавання вышэйшых дзяржаўных структураў Беларусі ніякага дачынення не мелі. Чальцы Рады і ўрада БНР былі прадстаўнікамі беларускага народа, абранымі на I Усебеларускі з'езд яшчэ ў снежні 1917 г.

Разам з тым некаторыя беларускія дзеячы не былі задаволены Другой устаўной граматай, паколькі яна не вызначала адносіны з іншымі дзяржавамі. 23 сакавіка 1918 г. А.Луцкевіч прапанаваў Народнаму сакратарыяту абвясціць незалежнасць БНР.

25 сакавіка 1918 г. пасля працяглага абмеркавання на пасяджэнні Рады была прынята Трэцяя ўстаўная грамата, у якой абвяшчалася незалежнасць БНР. Ужо 27 сакавіка была апублікавана пастанова аб арганізацыі мясцовага апарата ўлады, аднак яе практычнае ажыццяўленне пачалося толькі летам.

Урад БНР разгарнуў актыўную міжнародную дзейнасць. Незалежнасць БНР прызналі Украіна, Літва, Латвія, Эстонія, Фінляндыя, Чэхаславакія. Консульствы БНР былі адкрыты ў Германіі, Польшчы, Даніі, Турцыі і Расіі.

БНР выдавала сваім грамадзянам беларускія пашпарты, зацвердзіла ў якасці дзяржаўнай нацыянальную сімволіку: свой дзяржаўны герб – "Пагоню" (узброены рыцар на кані) і свой дзяржаўны бел-чырвона-белы сцяг. 12 красавіка 1918 г. Народны Сакратарыят БНР прыняў пастанову аб абвяшчэнні беларускай мовы дзяржаўнай і абавязковай для грамадзянаў рэспублікі.

Значных поспехаў БНР дасягнула ў развіцці асветы і культуры. Паводле розных падлікаў, працавалі ад 150 да 350 школ. Падрыхтоўка настаўнікаў вялася ў Свіслацкай семінарыі і Мінскім педінстытуце. У красавіку 1918 г. была заснавана Мінская вышэйшая музычная школа, якая неўзабаве пераўтварылася ў Беларускую кансерваторыю. У красавіку 1918 г. была створана падрыхтоўчая камісія для адкрыцця Беларускага універсітэта ў Мінску, у якую ўвайшлі А. Смоліч, М. Доўнар-Запольскі, Я. Карскі і інш. Па ініцыятыве І.Луцкевіча ў 1918 г. была створана першая беларуская навуковая ўстанова – Беларускае навуковае таварыства ў Вільні. Выдаваліся беларускія кнігі, часопісы і газеты.

Як сведчанне растучага аўтарытэту БНР можна разглядаць той факт, што па запрашэнні У.Леніна новы кіраўнік урада БНР А.Луцкевіч у лістападзе 1918 г. наведаў Маскву з мэтай нармалізаваць двухбаковыя адносіны. Аднак менавіта ў гэтыя дні стала вядома аб рэвалюцыі ў Германіі і яе капітуляцыі ў вайне. Бальшавікі зноў вярнуліся да сваёй ідэі сусветнай камуністычнай рэвалюцыі, а БНР у гэтым ім толькі перашкаджала. Былі перапынены ўсялякія кантакты з БНР. Савецкая Расія не прызнала незалежнасці нашай краіны і 17 лістапада Чырвоная Армія пачала наступ на Беларусь. 10 снежня чырвонаармейцы захапілі Мінск, а 5 студзеня 1919 г. – Вільню.

Рада і ўрад БНР, каб не быць арыштаванымі, мусілі выехаць з Мінска ў Гродна, а пасля ў эміграцыю – спачатку ў Літву, потым у Чэхаславакію. У розныя гады Рада знаходзілася ў Парыжы, ЗША, Канадзе. Зараз Раду БНР у эміграцыі узначальвае Івонка Сурвіла, беларуска, грамадзянка Канады, пражывае ў Таронта. У апошнія гады Рада папоўнілася прадстаўнікамі беларускага нацыянальна-дэмакратычнага руху (С.Навумчык), якія па палітычных матывах былі вымушаны пакінуць сваю радзіму.

Галоўнай заслугай дзейнасці ўрада БНР было тое, што ён азнаёміў грамадскасць суседніх краін з наяўнасцю беларускага нацыянальнага руху, акрэсліў этнічныя межы Беларусі, прадухіліў яе падзел паміж суседнімі дзяржавамі (Расіяй, Польшчай, Украінай, Літвой) як "нічыйнай" тэрыторыі. Пасля шматгадовага уціску і прыніжэння беларусы паўсталі як еўрапейскі народ, які абвясціў сваё гістарычнае права на месца пад сонцам. Вось чаму 25 сакавіка назаўсёды ўвайшло ў беларускую гісторыю як Дзень волі. Нягледзячы на ліквідацыю БНР, беларускім патрыётам удалося стварыць не проста беларускі ўрад, а Беларускую Народную Рэспубліку, якая на доўгія гады зрабілася ўзорам і сімвалам нацыянальнай дзяржаўнасці.

**Аляксандр КАДАНЧЫК,**
**кандыдат гістарычных навук.**

# Не згубіце Свабоду 25 сакавіка!

Як звычайна зь пераходам на летні час мяняюцца частоты кароткіх хваляў, на якіх гучаць у эфіры праграмы Радыё Свабода. Сёлета наш вяснова-летні сэзон пачынаецца ў нядзелю, 25 сакавіка.

Вось наш расклад ад сакавіка да кастрычніка 2007 г. Для тых, у каго шкала прыймача ў мэтрах, падаем даўжыню хвалі ў мэтрах:

6.00-8.00
7115 кгц (42,16 м)
9635 кгц (31,14 м)
18.00-20.00
9725 кгц (30,85 м)
15215 кгц (19,72 м)
20.00-22.00
7115 кгц (42,16 м)
15215 кгц (19,72 м)
22.00-00.00
7115 кгц (42,16 м)
9750 кгц (30,77 м)

Зьвяртаем ўвагу на тое, што ад 25 сакавіка зьменяцца ўсе нашыя частоты на карoткіх хвалях.

Расклад вяшчаньня на сярэдніх хвалях застаецца той самы:

6.00-8.00, 18.00-00.00
612 кгц (490 м)

**АД 25 САКАВІКА ШУКАЙЦЕ НАС НА НОВЫХ ХВАЛЯХ**

**ПЕРАКАЖЫЦЕ ГЭТУЮ ІНФАРМАЦЫЮ СЯБРАМ І ЗНАЁМЫМ**

**НЕ ЗГУБІЦЕ СВАБОДУ 25 САКАВІКА!**

Практычныя парады ў пытаньнях прыёму нашых праграмаў з архіву перадачы "Настрой на Свабоду":

**Новая перадача для слухачоў – "Настрой на Свабоду"**

Сяргей Шупа, Прага

Мы працягваем атрымваць нараканьні нашых слухачоў наконт якасьці прыёму праграмаў. Каб разам з вамі палепшыць сытуацыю з прыёмам, Радыё Свабода пачынае сэрыю спэцыяльных перадачаў – "Настрой на Свабоду", прысьвечаных радыёпрыёму наагул і прыёму нашых праграмаў.

Сёньня мы пагаворым пра тое, як лепш слухаць нашыя праграмы на карoткіх хвалях.

Улічваючы эканамічную недаступнасьць заходніх прыймачоў, найлепшымі ў нашых умовах надалей застаюцца старыя Акіяны, ВЭФы, Ленінграды і падобныя прыймачы з расьцягнутымі дыяпазонамі карoткіх хваляў (25, 31, 41 і 49 мэтраў). Лепшыя, вядома, тыя, што могуць сілкавацца ад электрасеткі – ня трэба траціцца на батарэйкі. Вось жа, найперш трэба азнаёміцца з раскладам і частотамі нашых праграмаў – і паспрабаваць злавіць наш сыгнал на ўсіх частотах.

Рэч у тым, што ў розны час на розных частотах якасьць прыёму розная – трэба для кожнай праграмы выбраць адну-дзьве лепшыя частаты і запомніць іх.

Вось некалькі парадаў:

– пажадана зрабіць асобную антэну: трэба ўзяць 20-30 мэтраў тонкага медзянога дроту (накшталт абмоткі трансфарматараў) накруціць сьпіральлю, напр. на алоўку, і расьцягнуць пад стольлю (у драўляным, цагляным доме), або на бальконе ці за акном (у доме з жалезабэтонным зварным каркасам). Зачышчаны ад ізаляцыі канец замацаваць у антэнным гнязьдзе на задняй панэлі прыймача.

– прыймач разьмясьціць як мага далей ад тэлевізара, кампутара, лядоўні, пабытовых электрапрыладаў і пажадана бліжэй да вокнаў, радыятараў; часам мае сэнс паспрабаваць перанесьці прыймач у іншы пакой – наагул пашукаць месца ў доме, дзе чутнасьць найлепшая.

– праверыць прыём на ўсіх частотах і выбраць найлепшую для канкрэтнай гадзіны.

**Вось наш расклад. Для тых, у каго шкала прыймача расьпісаная ў мэтрах, падаю таксама даўжыню хвалі ў мэтрах:**

6.00-8.00
6170 кгц (48,62 м)
9635 кгц (31,14 м)
18.00-20.00
9725 кгц (30,85 м)
15215 кгц (19,72 м)
20.00-22.00
7195 кгц (41,70 м)
15480 кгц (19,38 м)
22.00-00.00
7115 кгц (42,16 м)
9750 кгц (30,77 м)
6.00-8.00, 18.00-00.00
612 кгц (490 м)

Зьвяртаюся да слухачоў з просьбай – напішыце, калі ласка, на якім прыймачы вы слухаеце нашыя праграмы (пры магчымасьці, калі ласка, назавеце дакладна марку прыймача, напрыклад, "Акіян-209" або "ВЭФ-202"), а таксама ці мае ваш прыймач дыяпазон карoткіх хваляў 19 мэтраў. Апрача гэтага запрашаю ўсіх тэхнічна дасьведчаных слухачоў дзяліцца сваімі парадамі і рэкамэндацыямі, якія б дапамаглі палепшыць прыём нашых праграмаў. Наш адрас у Менску – паштовая скрынка 111, Менск, 220005; адрас у Празе – Vinohradska 1, Praha 11000, Чэская Рэспубліка; ад 9 вечара да 9 раніцы ў Менску працуе наш тэлефон-аўтаадказьнік 290-39-52. Адрасы электроннай пошты - belarus@rferl.org.

Чакаем вашых водгукаў і жадаем добрага прыёму.

***

Для інтэрнэт-наведнікаў нагадваем, што нас можна слухаць у інтэрнэце і нават праз сатэліт:

• Жывы эфір беларускай службы Радыё Свабода ў фармаце Real Audio або Windows Media

• Поўны аўдыё-архіў за любы дзень у фармаце Real Audio або Windows Media

• Устаноўкі для слуханьня беларускай праграмы Радыё Свабода праз сатэліт:

Спадарожнік HOTBIRD 3
13° на ўсход
POLARIZATION: Vertical
FREQ: 12.226 GHZ
FEC: 3/4
SYMBOL RATE: 27.50 MS/s
VIDEO & PCR PID: HB1-8:4260
HB9-28:4360
DATA RATE: 192 kbps
ENCODING: MPEG2

**Сакрэты добрага прыёму на сярэдняй хвалі**

Сяргей Шупа, Прага

Усім нашым слухачам добры дзень. У папярэдняй перадачы мы гаварылі пра тое, як палепшыць прыём нашых праграмаў на карoткіх хвалях. Аднак апрача карoткіх хваляў Беларускую Свабоду можна прымаць і на сярэдніх хвалях. Падрабязьней пра гэта – у нашай сёньняшняй перадачы.

Перавага сярэдніх хваляў над карoткімі ў тым, што сярэднехвалевы дыяпазон мае абсалютная бальшыня прыймачоў, у тым ліку, напрыклад, аўтамабільных (аўтамабільны прымач з карoткімі хвалямі – вельмі вялікая рэдкасьць). Аднак маюць сярэднія хвалі і свой мінус – радыёперадатчык мусіць быць дастаткова магутны і знаходзіцца як мага бліжэй да месца прыёму. У нашым выпадку справы выглядаюць так: праграмы Беларускай Свабоды рэтрансьлююцца нашымі калегамі з Радыё Балтыйскія Хвалі праз перадатчык, які разьмешчаны ў самым цэнтры Вільні.

А што рабіць ты, хто жыве далей – за 100 і больш кілямэтраў ад Вільні?

Умовы прыёму на сярэдніх хвалях адрозьніваюцца ў залежнасьці ад таго – цёмна цяпер за акном або сьветла. У сьветлую частку сутак да прыймача даходзіць толькі гэтак званая наземная або паверхневая хваля – у нашым выпадку яна гасьне на адлегласьці каля 200 кілямэтраў ад Вільні, далей на частаце 612 кілягэрцаў удзень нас не чуваць.

У цёмную частку сутак пашыраюцца ня толькі наземныя радыёхвалі, але і гэтак званыя нябесныя або прасторавыя хвалі, якія адбіваюцца ад іянасфэры і вяртаюцца на зямлю, што значна пашырае дальнасьць прыёму. Таму ўвечары сярэднехвалевы дыяпазон запаўняецца галасамі станцыяў, якія працуюць на адлегласьці да некалькіх тысячаў кілямэтраў ад прыймача. Для нас з аднаго боку гэта добра, бо сыгнал віленскага перадатчыка можна прымаць на ўсёй тэрыторыі Беларусі. З другога боку – ў эфіры ў гэтым часе зьяўляюцца канкурэнты, а па-другое наземная і нябесная хваля могуць узаемна гасіцца, і ўтварацца сьляпыя зоны, дзе сыгнал ня чутны.

А зараз пра тое, як практычна палепшыць прыём нашых праграмаў на частаце 612 кілягэрцаў, г.зн. на сярэдняй хвалі 490 мэтраў. (Перавесьці частоты ў мэтры лёгка – трэба 300 000 (хуткасьць сьвятла) падзяліць на частату ў кілягэрцаў – атрымаем даўжыню хвалі ў мэтрах).

Найперш не забудзьцеся, што прыймач трэба разьмясьціць як мага далей ад тэлевізара, кампутара, лядоўні, пабытовых электрапрыладаў і пажадана бліжэй да вокнаў, радыятараў; часам мае сэнс паспрабаваць перанесьці прыймач у іншы пакой – наагул пашукаць месца ў доме, дзе чутнасьць найлепшая і дзе няма ніякіх тэхнічных перашкодаў – калі вы ўключыце прыймач на сярэдніх хвалях, нічога не павінна гудзець або трашчаць.

Уключыце прыймач у часе нашага вяшчаньня (ад 6-ай да 8-ай раніцы і ад 1800 да поўначы) і паспрабуйце злавіць нашую хвалю на частаце 612 кілягэрцаў або 490 мэтраў (у залежнасьці ад таго – якая разьметка ў вашым прыймачы).

Як толькі вы яе злавілі – паспрабуйце павольна паварочваць прыймач вакол вэртыкальнай восі пакуль не намацаеце найлепшую чутнасьць. Можна зрабіць наадварот – паварочваць, пакуль чутнасьць будзе найгоршая – і павярнуць прыймач на 90 градусаў. У ідэале ен мусіць глядзець сваёй пярэдняй або задняй панэльлю на паўночны захад – у бок Вільні. Гэтую апэрацыю варта паўтарыць у розных пакоях.

Вядома ж, калі вы жывяце ў доме з жалезабэтонных каркасных канструкцыяў, вам давядзецца зрабіць асобную антэну – для гэтага трэба ўзяць 20-30 мэтраў тонкага медзянога дроту (накшталт абмоткі трансфарматараў) накруціць сьпіральлю, напр. на алоўку, і расьцягнуць на бальконе ці за акном. Зачышчаны ад ізаляцыі канец антэны замацаваць у антэнным гнязьдзе на задняй панэлі прыймача.

Вось збольшага ўсё, што датычыць прыёму нашых праграмаў на сярэдніх хвалях. Чакаем вашых водгукаў пра якасьць прыёму.

Я зноў зьвяртаюся да слухачоў з просьбай – напішыце, калі ласка, на якім прыймачы вы слухаеце нашыя праграмы (пры магчымасьці, калі ласка, назавеце дакладна марку прыймача, а таксама ці мае ваш прыймач дыяпазон карoткіх хваляў 19 мэтраў. Апрача гэтага запрашаю ўсіх больш тэхнічна дасьведчаных слухачоў дзяліцца сваімі парадамі, якія б дапамаглі палепшыць прыём нашых праграмаў. Наш адрас у Менску – паштовая скрынка 111, Менск, 220005; адрас у Празе – Vinohradska 1, Praha 11000, Чэская Рэспубліка; ад 9 вечара да 9 раніцы ў Менску працуе наш тэлефон-аўтаадказьнік 290-39-52. Адрас электроннай пошты - belarus@rferl.org.

Чакаем вашых водгукаў і жадаем добрага прыёму.

«ГОРЕЦКИЙ ВЫБОР». Антибашистская газета. №14, март 2007 г. Издатель и главный редактор - Эдуард БРОКАРЕВ. Тел. 545 89 83
Тираж 299 экземпляров. Газета издается и распространяется в соответствии с законодательством Республики Беларусь